Продолжение, начало на стр.7

*«Ты ушёл навсегда*
*Ну, а нам что осталось,*
*Только память в сердцах*
*Да портрет на холодной стене,*
*Да зеленый листочек на даче в окне,*
*А увидим тебя мы лишь только во сне».*

За 48 лет работы в театре я много ролей сыграла. Театр, это моя вторая семья, вторая жизнь сейчас, когда я осталась одна – дети живут своими семьями.

Мы с мужем старались откладывать понемногу на подарки внукам, но эти деньги «сгорели», а потом стали собирать себе на смерть, он за эти деньги сумел купить удочку. Вот так рабочему человеку государство помогает.

Коллектив театра оказал мне моральную и материальную помощь – спасибо им всем.

Благодарю «Объединение котельных», где муж работал последнее время на пенсии – спасибо им.

Руководство Гормолзавода прислало ему, за его многолетний труд, 2 венка. Даже не один человек не пришел на похороны – занесли венки и ушли, видно им было стыдно за своего шефа.

3 марта 40 дней, как умер мой муж, друг и нужный человек в жизни. Если сможете, написать о нем, что-нибудь, буду благодарна.

Если будет время позвоните и меня позовите на прием к Вам.

Нагорная Зинаида Викторовна

## Справедливость восторжествовала

С ноября 1997 года мой вопрос о незаконном увольнении не был разрешен, так как, никто не был заинтересован во всестороннем и доскональном решении его согласно Закона Республики Беларусь.

Но с приходом на должность председателя Мозырского горисполкома товарища Борисенко Валентина Васильевича данный вопрос вскоре был разрешен. А поэтому через газету («Жыццё Палесся» - **рэд.**) мне хочется выразить слова благодарности товарищу Борисенко В. В.

Огромное спасибо Вам за помощь в решении моего вопроса. Хочу Вам пожелать крепкого здоровья, долголетия и долго, долго работать на этом посту, принося людям добро.

Низкий поклон Вам добрый человек!

С уважением Л. Шпитальник,

Жительница г. Мозыря.

**От редакции:** - Более 5 лет, с 1997 года, гражданка Шпитальник добивалась увольнения и получения трудовой книжки. Прошла все суды, вплоть до Верховного. Обращалась в Администрацию президента. Защищая честь мундира, а вернее, беззаконие нижестоящих структур, не желая разобраться в сути вопроса ей отовсюду слали, ошеломляющие своим цинизмом, отписки. Но упорство этой мужественной и стойкой женщины было, хоть и частично, возмещено!

Но остаются вопросы: "Почему рассчет с гр. Шпитальник производил зав. юротделом горисполкома г-н Мартинович, а запись в трудовой книжке заверял завуправделами г-н Пашинский? Разве в бюджете горисполкома есть средства для выплаты зарплаты незаконно уволенным сотрудникам коммерческих фирм и арендных предприятий? И почему выплатили только за 2 года, а не за все 5 лет волокиты, включая моральный ущерб? На каком основании с нее взяли расписку, что она не будет дальше обращаться в суд?

Каким бы добрым и справедливым не был бы новый мэр нашего города с таким сотрудниками он долго не проработает.

## Навіны ад "Радыё Свабода"

### Урокі Еўропы для... Палесся

Вялікая паводка ў Чэхіі, *Германіі, Венгрыі* ды іншых еўрапейскіх краінах вымушае звярнуць увагу на праблемы абароны ад вады Беларускага Палесся. Сёлета тут суха, але раз у 2 – 3 гады тысячы сем'яў і дзесяткі сельгаспрадпрыемстваў пакутуюць ад веснавых, летніх і нават восенскіх разводдзяў.

Палессе пакутуе ад вады нават пры выпадanні за кароткі тэрмін месячнай нормы ападкаў. Гэта, прынамсі, назіралася ў 1993, 1998, 2000 гадах. Паляшукі памятаюць надзвычай моцную паводку ў 1979 годзе. Апошняя вялікая вада была тут увесну 99-га. У пойме Прыпяці на Гомельшчыне і Берасцейшчыне пад вадою апынуліся тысячы падворкаў сельскіх жыхароў і сотні тысячаў гектараў палеткаў.

У тым жа годзе была прынята адмысловая рэспубліканская праграма інжынерных і водагаспадарчых мераў, скіраваная на абарону Палесся ад паводкі. Прынамсі, на Гомельшчыне за 5 гадоў павінны былі ўзвесці дадаткова 60 кіламетраў ахоўных дамбаў, рэканструяваць 202 кіламетры прыймальнікаў вады, пракапаць 113 кіламетраў каналаў для яе скідвання, выканаць шэраг іншых работаў.

За 3 гады, што мінулі пасля апошняй вялікай паводкі, у рэгіёне здолелі ўзвесці толькі трэцюю частку дамбаў і спраектаваных каналаў. Абаронена ад вады крыху больш за 4 тысячы гектараў урадлівых земляў з плану 18715 гектараў.

Ахоўныя дамбы блізу вёскі Скрыгалаў Мазырскага раёну меліяратары не могуць да канца ўзвесці ўжо цэлае дзесяцігоддзе.

У пералік доўгабудаў патрапіў і польдэр блізу вёскі Града Жыткавіцкага раёну. Безабароннымі ў гэтым раёне застаюцца старажытны Тураў, вёскі Запясочча, Верасніца ды іншыя.

Як распавёў прадстаўнік абласной управы меліярацыі "Гомельмеліяводгас" Аляксандр Пархоменка, праграма ахоўных мераў ад паводкі на Палессі не выконваюцца з прычыны адсутнасці фінансавання. "Толькі ў 1999 годзе выдзелена было 35 адсоткаў грошай ад гадавой праграмы. У 2000-м – 20 адсоткаў, у 2001-м – 14 адсоткаў. І сёлета столькі. Распрацаваныя праекты аховы на паліцах пакрываюцца пылам", - кажа Пархоменка. Ён нават не бярэцца прадказаць, што будзе, калі вялікая вада, як зараз у еўрапейскіх краінах, нечакана прыйдзе на Палессе.

- Еўропа плавае, - лічыць Аляксандр Пархоменка, - нават пры іх фінансавых магчымасцях. А мы тым больш будзем плаваць.

Да згаданага трэба дадаць, што ў незасушлівыя гады пры адносна невялікіх ліўнях на Гомельшчыне вымакае 23 тысячы гектараў меліяраваных зямель. Яшчэ 180 тысячаў гектараў – пераўвільготнены.

Беларуская служба
**"Радыё Свабода".**



## *Дык адкуль жа ўзяліся грошы на "мерседэсы"?*

"За мои поступки вам никогда не было и не будет стыдно.

**Мой первый опыт президенства - перед вами. Я не стыжусь его.** Я сегодня могу честно смотреть вам в глаза, ибо у меня не было, нет и небудет иных интересов,..."

(Обращение А. Лукашенко к дорогим соотечественникам, сентябрь 2001г.)

## Лавіся рыбка!

Каб выжыць, шматлікія ўнутраныя войскі Беларусі сталі развіваць натуральную гаспадарку. У прыватнасці, гомельская часць №5525 Міністэрства ўнутраных справаў узяла ў арэнду 12 кіламетраў ракі Сож.

Напачатку Гомельскі райвыканкам выдзеліў вайсковай часці ў арэнду на пяць гадоў 8-кіламетровы адрэзак ракі – ніжэй абласнога цэнтру па цячэнні. Пакуль афармлялі адпаведныя дакументы, "апетыт" узрос і вайскоўцам прырэзалі яшчэ 4 кіламетры "блакітнай стужкі".

Відавочна, традыцыя развіваць падсобную гаспадарку ў вайсковых гарнізонах ідзе ад былой Савецкай Арміі. Памятаю, у сямідзесятыя гады ў танкавым палку ў гарнізоне Печы пад Барысавам, дзе мне давялося служыць, была цэлая свінаферма. Пакуль мы, маладыя хлопцы, вучыліся на браніраваных машынах перамагаць ваяроў НАТО, наш палкавы свінар за невядома якія паслугі двойчы з'ездзіў дахаты на адпачынак.

У беларускім войску развіваць свінагадоўлю, мусіць, не вельмі выгадна. Корму не хапае нават на існуючых сельскагаспадарчых свінакомплексах. Таму ў гомельскай вайсковай часці ўнутраных войскаў, як сцвярджае яе камандзір, палкоўнік Аляксандр Стэльмашок, гадуецца толькі два парсюкі. Іншая справа – рачная рыба. Не вішчыць, начальству вочы не коле сваім выглядам.

З другога боку, як ні круці, а вайскоўцаў трэба чымсці карміць, і нават калі ў часці бракуе грошай.

- Фінансаванне апошнім часам не зменшылася, - сцвярджае палкоўнік Стэльмашок, - але сродкі паступаюць не рытмічна. Вось у чым праблема! Грошы мы ўрэшце выбіраем. Але, як кажуць, усё добра ў пару. Цяпер хаця б у забяспячэнні рыбаю мы незалежныя. Патэлефанаваў, накіраваў уначы рыбакоў на рыбалку. Яны зловяць кілаграмаў сто рыбы, а грошы потым атрымаюць.

Апроч рыбакоў, ўзятых на здельную працу, у штаце часці ўнутраных войскаў будуць, відаць, неўзабаве і даглядчыкі жывёлы. Прынамсі, пра гэта ўсур'ёз дбае вайсковае начальства.

- Мы думаем, - дзеліцца гаспадарчымі клопатамі камандзір Стэльмашок, - што пазней і бычкоў будзем вырошчваць, летам пасвіць. Каля рэчкі лугі пустуюць. Дык чаму не ўзяць у калгасе 100 бычкоў! Папасвіць, а восенню 10 забраць як плату, а 90 – вярнуць ў калгас. Упаўне можа быць і такі варыянт.

Гаспадарчая кемлівасць вайсковага камандзіра да спадобы шэраговым салдатам унутраных войскаў. Яны ўжо пачаставаліся рачною рыбаю. Не меней, як 3 цэнтнеры, яе вылавілі ўжо на арэндаваным участку ракі Сож.

Ці дойдзе справа да біфштэксаў з ялавічыны, пакажа час. Ва ўсялякім разе, сытна накормлены вайсковец лепей ахоўвае парадак, чым напаўгалодны.

***Казімір Яноўскі.***

Беларуская служба "Радыё Свабода"

## Ці закране амністыя прафесара Бандажэўскага?

Паводле новага закону пра амністыю тэрмін пакарання былому рэктару Гомельскага медыцынскага інстытуту, прафесару Юрыю Бандажэўскаму можа быць скарочаны на 1 год.

У камітэце выканання пакаранняў пры Міністэрстве ўнутраных справаў параілі пісьмова падаць запыт на імя начальніка Уладзіміра Коўчура адносна далейшага лёсу зняволенага прафесара Бандажэўскага. Адказ абяцалі даць дні праз тры. Аднак начальніца спецаддзелу камітэта Людміла Гладкіх вырашыла гэта нашмат хутчэй і гадзіны праз дзве паведаміла, што былы рэктар медінстытута Юрый Бандажэўскі фармальна падпадае пад амністыю.

- У яго можа быць скарачэнне тэрміну на адзін год, - заявіла Людміла Гладкіх. – У першую чаргу на камісіі разглядаюцца асобы, якія будуць вызвалены ад далейшага адбыцця пакарання, а пасля ўжо тыя, у каго проста скарачаецца тэрмін. Бандажэўскі – такі ж асуджаны, як і ўсе. Шэсць месяцаў адводзіцца на выкананне закона пра амністыю. У гэты перыяд яму і будзе скарочаны тэрмін, калі няма парушэнняў.

Ужо больш за год сусветна вядомы навуковец, доктар медыцынскіх навук, прафесар Бандажэўскі адбывае пакаранне ў мінскай калоніі ўзмоцненага рэжыму, што на вуліцы Кальварыйскай. Яго асудзіла вайсковая калегія Вярхоўнага суду да 8 гадоў зняволення нібыта за хабарніцтва.

Парламенцкая камісія АБСЕ, якая нядаўна наведала прафесара Бандажэўсага ў турме, канстатавала, што ў яго зараз няма належных умоваў працягваць навуковыя даследаванні. Між іншым, Юрый Бандажэўскі займаўся вывучэннем уздзеяння "малых дозаў" радыяцыі на арганізм чалавека.

Беларуская служба **"Радыё Свабода"**



Владимир **Тадаровский**,
г. Мозырь

Над Москвою кружат свиристели –
Редкое явление природы;
Заблудились, вот и прилетели
Несмотря на шалости погоды.
Их в Париже и в Варшаве знают,
Там они бывают даже чаще.
Только к нам они не залетают,
Видно климат здесь не подходящий.
Воробьи да наглые вороны,
Окружают городские свалки,
И дурманит запах самогона...
- Разве Беларусь не жалко?
В чём ты виновата перед Богом,
Сторона берёз и грустных песен?
- Улыбалась редко, горевала много,
Да вот чёрной былью
замело Полесье...
Но когда-нибудь вздохнёт свободно
Край озёр, земля моя больная!
Родину любить сейчас не модно,
Просто птицы этого не знают.

***

Труден путь к познанию вселенной,
Но ещё сложней познать себя.
Тайны мира и Души нетленной
Связаны мгновеньем бытия.
Бесконечность вечного пространства
Человеку не дано объять,
Жалкому рассудку не понять
Смысла жизни, смерти постоянство.

***

## Што нам бракуе?

Казік

Чым мы запоўнім тыя пустоты,
Дзе хвалі прагныя равуць?
На рыфы нас кінула мора Свабоды!
Няхай завуць! Яшчэ завуць...

Мы можам скакаць ды крычаць,
Да ранку ня спаць-працаваць,
Мы можам вучыцца, сьмяяцца,
Маліцца, кахаць ды кахацца.
Па гораду можам матляцца,
У бойку бяз сэнсу ўвязацца.
Напялім адзёжу маднейшую,
Сядзем у машыны файнейшыя,
Дзень Народзінаў справім,
Deep Purpl на цэнтры паставім,
Можам дзяцей нарабіць,
Можам кінуць паліць,
За "Славію" можам хварэць,
Паволі ад думак шалець,
На даху самотна пабыць,
На брыдкае вочы закрыць...

Але больш не разслабіцца нам!
Маладосьці ня выпіць да дна!
Ня дасьць поўні шчасьця вясна,
Пакуль па-над намі Сьцяна!
..................................................
Пакуль у нашых сэрцах Сьцяна...




## НАРУШАЕШЬ ПРАВА ЧЕЛОВЕКА?

*У газеце "Жыццё Палесся" ад 21.08.2002 г. у рубрыцы "В политических партиях" з'явіўся артыкул сакратара КПБ г. Мазыра Таісіі Пiлiпчук артыкул, які прадстаўнікі іншых партыяў расцэньваюць, як пачатак камуністамі палітычнай кампаніі па выбарам у мясцовыя Саветы. Так як, неспадзяючысь, што ў гэтай газеце можна выказаць меркаванне іншых палітычных партыяў г. Мазыра, рэдакцыя атрымала ліст на гэты артыкул ад сакратара ЛДП Г. Суворава з прапановай надрукаваць яго. Што рэдакцыя "МВ" і выконвае.*

### Время учит и лечит от той болезни, которой мы...

Хорошего и плохого коммуниста не бывает. Этой болезнью надо пережить каждому народу, чтобы приобрести иммунитет от этой болезни. То, светлое будущее и коммунистический рай, которые они обещали народу в течении ХХ века, уже построен на том свете. Попытка перенести их в наш реальный мир, как правило, заканчивался очень трагический для каждого народа, который пытался это сделать. И вообще, я считаю, что плагиат коммунистов притчей ИИСУСА ХРИСТА требует публичного осуждения и покаяния, как это сделали немцы и австрийцы по отношению к нацисткой идеологии. Иначе, мы так и не поймем простейшей истины – дорога в ад, как правило, светлая и мощеная, а дорога в рай – очень трудная и каждому Господь Бог дает своё испытание. Не поняв этого, каждый из нас не минует какой-либо напасти. В запасниках у Бога их больше чем предостаточно и особенно для души. К очень большому сожалению нас так и не научили застенки ЧК, миллионы эмигрантов, ГУЛАГи, величайшая трагедия войны,

*Продолжение на стр. 11*

# НЕ ПАКІДАЙЦЕ ГРАХОЎ СВАІХ

Уладная "вертыкаль" нешта вельмі зарана распачала падрыхтоўку да маючых адбыцца выбараў у мясцовыя Саветы. Гэткую выснову робяць мазырчукі па тым, што ў горадзе пачалі рамантаваць дарогі, замазваць асфальтам калдобіны.

- *Замазваюць людзям вочы, а сабе – сумленне,* - кажуць людзі і гэта здараецца кожны раз, калі набліжаюцца чарговыя выбары, фестывалі, ды розныя іншыя "Дажынкі". Але ж да выбараў яшчэ далёка. Мабыць у нашым горадзе адбудзецца якая-небудзь іншая святочная імпрэза. Чым горш эканамічнае становішча ў дзяржаве, тым больш святкуем. Гэта аксіома і атрыбут усіх аўтарытарных рэжымаў. Мэта – затлуміць людзям галавы неіснуючымі поспехамі.

*Дык што збіраемся святкаваць?*

Ходзяць чуткі, што да нас з'едуцца ўсе кіраўнікі камунальнай гаспадаркі краіны. Пераймаць вопыт. ***Якіх дасягненняў?***

*Як па некальк̆і месяцаў не працуюць ліфты і інваліды, старыя нямоглыя людзі на карачках дабіраюцца да сваіх кватэраў?*

*Як па месяцу няма гарачай вады летам? І як можна адной лазняй абмыць 100 тысячаў жыхароў Мазыра?*

*Што на прадпрыемствах затрымліваюцца заробкі, а за камунальныя паслугі неабходна ўсёроўна заплаціць да 15 чысла?*

Ня ведаю які досвед тыя кіраўнікі атрымаюць, але што гэтая "сходка" ўльецца ў капейчыну гарадской казне – гэта дакладна. А хутчэй за ўсё зробяць звыклым рэкіцёрскім мэтадам – абложаць прадпрыемствы Мазыра чарговым "аброкам".

Тым больш набліжаюцца выбары ў мясцовыя Саветы, якія амаль цалкам складаюцца з дырэктароў гэтых жа прадпрыемстваў, фірм, школаў, чыноўнікаў выканаўчай улады. Акрамя гэтага дырэктары маюць, ці то свой Клуб, ці то Савет дырэктароў. Засядаюць, прымаюць рашэнні, а жыццё грамадзян нешта ўжо колькі год не лепшае. І так паўсяместна, па ўсёй краіне.

Няўжо тым , хто пры ўладзе дагэтуль неўдамёк, што час змяніўся, трэба акумуляваць у Саветах усіх узроўняў лепшых прадстаўнікоў розных палітычных партыяў, грамадскіх, дзелавых колаў. Прадстаўнікі грамадства, за якімі стаяць палітычныя партыі, не пабаяцца адстойваць інтарэсы выбаршчыкаў, рэгіёнаў, краіны ні перад якім аўтарытэтам – будзь то хоць сам прэзідэнт.

Улада, калі яна лічыць сябе мудрай і моцнай, павінна сама паклапаціцца аб тым, каб была пераемнасць улады рознымі палітычнымі коламі грамадства. Рана ці позна ад таго, што жыццё не лепшае можа здарыцца грамадскі выбух. І што адбудзецца? Зноў прыйдуць людзі, якія, зноў-такі, спачатку будуць вучыцца кіраваць? Зноў-такі на лёсах простых людзей. Тады можа ж здарыцца і так, што віхор незадавальнення змяце ўсіх. І хто прыйдзе да ўлады? Зноў Сталін, зноў Гітлер, Саддам Хусэйн...? Хопіць ужо і тых зніклых, якія ёсць на Беларусі!

Хто зараз запраўляе ў Мазырскім гарсавеце, гарвыканкаме? – Сябры адной палітычнай групоўкі – КПБ. І які вынік?

Павінна быць магчымасць ,згодна Закону, удзельнічаць у складзе выбарчых камісіяў усіх узроўняў прадстаўнікам палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў.

А што адбываецца насамрэч?



- ЗА РЫГОРАВІЧА!

*Працяг на стар.11*

# СВАІМ НАШЧАДКАМ!

Пад час восенскіх прэзыдэнтскіх выбараў грамадскімі арганізацыямі, шэрагам партыяў былі пададзены кандыдатуры ў склад гарадской камісіі.

ГА БНФ "Адраджэньне" правяла сход у дзень абвяшчэння выбараў увечары. Падалі заяву і пратакол на наступны дзень пасля апублікавання ў прэсе а 16-й гадзіне.

Сябры партыі АГП правялі сход і падалі дакумэнты праз дзень.

А паседжанне гарвыканкам па стварэнню гарадской камісіі правёў да пачатку працоўнага дня і абраў камісію. А заявы трапілі на разгляд з пачаткам працоўнага дня – ў 8 гадзін. Адразу атрымалі такія тлумачэнні. Пісьмова адказы ж, зразумела, такімі не былі.

Участковыя камісіі былі запоўнены таксама поўнасцю людзьмі, якія і не ведалі, што іх туды абралі. Перад самымі выбарамі іх, вядома ж, ціхенька адтуль вывялі нідзе не паведаміўшы ў друку, галосна, як таго патрабуе закон.

Назіральнікам, і тым на давалі выконваць свой грамадзянскі абавязак!

Паважаная Ўлада! Калі ж на кожным вуглу вы трызніце, што выбары ў нас дэмакратычныя, адкрытыя, галосныя і г. д. – то чаму ж вы так баіцёсь прысутнасці прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў у складзе выбарчых камісіяў?

Можа таму, што яны будуць перашкаджаць маніпуляваць са спіскамі выбаршчыкаў?

Перашкаджаць здымаць незаўгодных уладзе кандыдатаў на этапе рэгістрацыі і непасрэдна перад галасаваннем?

Не даваць прынуждаць выбаршчыкаў к датэрміноваму галасаванню і падменьваць скрыні?

Перашкаджаць займацца фальсіфікацыяй пад час галасавання?

Сведчыць пра парушэнні пры падліку галасоў?

Перашкаджаць займацца падробкай пратаколаў участковых выбарчых камісіяў?

Памятайце! Тэрміну даўніны за парушэнне выбарчага закакадаўства – не існуе!




І маліце Бога, каб вас прыцягнулі да адказнасці пры вашым жыцці. Тады яшчэ вы зможаце апраўдацца перад сваімі дзецьмі і ўнукамі і сказаць, хто і як вас да гэтага прымушаў. Ім будзе цяжка даведацца, што вы памёрлі злачынцам.

***Не пакідайце грахоў сваіх сваім нашчадкам!***

*Стах* ***МАЗЫРСКІ***

# Створана дэмакратычная кааліцыя дэмакратычных сілаў Гомельшчыны

Двадцатага ліпеня ў Гомелі адбыўся сход лідэраў рэгіянальных структураў шасці палітычных партыяў і болей чым паўтары дзесяткі недзяржаўных арганізацыяў Гомельшчыны, а таксама прадстаўнікоў грамадскасці большай часткі раёнаў вобласці.

На сходзе былі разгледжаны праблемы, прававыя аспэкты звязаныя з маючымі адбыцца мясцовымі выбарамі ў якіх, згодна дзеючай Канстытуцыі, прадстаўнікі палітычных партыі і грамадскіх арганізацый маюць права прымаць актыўны ўдзел.

Вынікам сустрэчы сталася стварэнне кааліцыі ўсіх дэмакратычных сілаў вобласці, зацікаўленых у адбудаванні дэмакратыі ў нашай краіне і іх сумесная Заява.

***

*Продолжение, начало на стр. 10*

**Время учит и лечит от той болезни, которой мы...**

диссиденты, многокилометровые очереди и т. д. и т. д. Власть придержащие должны наконец-то понять – живи сам, но дай жить и ближнему. Иначе всё повторится вновь, и вновь – кто был последним станет первым и наоборот.

Фактически являясь в городе правящей партией, коммунисты пытаются всячески откреститься от тех безобразий, которые творились в последнее время до прибытия нового руководителя города. На словах поддерживая Президента, а на самом деле люто ненавидя его, они фактически занялись своим самообогащением, примеров хоть отбавляй. Такое положение долго продолжаться не может, общественность и народ должны прекрасно это осознавать. Новый мэр г. Мозыря должен дать свободный доступ к СМИ всем партиям существующим в городе или всем запретить, если ни одна из них юридический не является проправительственной, коммунисты таковой пока не являются. Редактор местной газеты попытается не опубликовать данную статью, в этом я не сомневаюсь. Поэтому официально заявляю, это будет грубейшее нарушение Избирательного Кодекса, т. к коммунисты статьей Таисии Пилипчук уже начали избирательную кампанию, хотя старт избирательной кампании ещё не дан.

***Геннадий Суворов,***
Секретарь ЛДП г. Мозыря.



## Каждый раз замечаем, что яд едим мы с чаем?

*На что вы обращаете внимание, глядя на упаковку продукта в магазине? На цену, а может, на содержание жира? Но это ли главное? Не забыли ли мы ещё про кое-что? Догадываетесь? Это – здоровье.*

Уже несколько лет в магазин я хожу с листочком бумаги, на котором написана «расшифровка» входящих в продукт компонентов. Ну жиры, углеводы, кислоты, сахар, ароматизаторы (идентичные натуральным) мне ещё понятны. А что обозначают некие буквенные коды, такие как, например, Е232, Е212, Е477 и другие?

Под ними, оказывается, скрываются пищевые добавки. Некоторые из них как бы безопасные – разрешены Минздравом. А другие, проще говоря, яды. Самые опасные представлены в таблице:

- опасные – Е102, 110, 120, 124, 127;
- запрещенные – Е103, 105, 111, 121, 125, 126, 130, 152;
- подозрительные – Е104, 122, 150, 171, 173, 180, 477, 241;
- ракообразующие – Е131, 142, 210, 211, 212, 213, 215, 216, 217, 239, 330;
- вызывающие расстройство желудка – Е338, 339, 340, 341, 407, 450, 461, 462, 463, 465, 466;
- вызывающие расстройство кишечника – Е221, 222, 223, 224, 226;
- влияющие на кровяное давление – Е250, 251;
- вызывающие сыпь – Е311, 312, 313, 320, 321;
- опасные для жизни – Е123;
- вредные для кожи – Е230, 231, 232, 238;
- повышающие содержание холестерина – Е250, 251.

Спросите, почему производители пишут эти цифры? А как же! Ведь если на упаковке не указано содержимое продукта, то это уже преступление, а кому нужны лишние проблемы?

Итак, всё обозначено, никаких лжи и риска. Хотите – покупайте, хотите – нет. Читать же вы умеете. Выбор всегда за вами, выбор есть, если есть из чего выбирать. А если вы, например, не дай Бог, не знаете, вернее, не знали этой расшифровки, то остается один вариант – травиться. Почему бы для остальных не повесить в магазинах эту чудо-объяснительную. Ведь если не запрещено писать, то, думаю, не запрещено и читать.

Подсчитано, что в белорусской продукции намного больше натуральных ингредиентов, чем в привезенных из-за границы. Вывод напрашивается такой: покупай своё. Поддержка белорусского производителя не только поможет ему экономически укрепиться, но и сохранить нам здоровье.

*Екатерина ГУРАЙ.*
«Народная Воля», №134.

## МАЗЫРСКІЯ НАВІНЫ

Запазычанасць 23-х прадпрыемстваў і арганізацый па заработнай плаце па г. Мазыру і Мазырскаму раёну склала 768,3 млн. рублёў.

Асобна па г. Мазыру сумма запазычанасці склала 489,4 млн. рублёў па пяці прадпрыемствам. Гэта ў 1,8 разоў больш, чым за адпаведны перыяд 2001 года. Па Мазырскаму раёну запазычанасць склала 278,9 млн. рублёў па 18-ці прадпрыемствам, што на 4,6 адсоткі ніжэй, чым у мінулым годзе.

***




У лепшы бок змяняецца праца жыллёва-камунальных службаў горада. Палепшылась чысціня вуліц, нешта робіцца з дахамі шматпавярховых дамоў, у некаторых мікраараёнах з'явіліся ўчаскі службаў ЖЭУ. З 1 жніўня ва ўсіх ЖЭУ горада зьмяніўся рэжым працы. Выходнымі днямі ў гэтых службаў будуць нядзеля і панядзелак. Усе астатнія дні, ўключаючы суботу, будуць працоўнымі з 8 да 17 гадзін.

***

## АБВЕСТКІ

Прыхільнікаў САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ІДЭІ ў Мазыры, Калінкавічах, Нароўлі, Ельску, Лельчыцах, Жыткавічах, Петрыкаве, Тураве, Хойніках шукаюць сябры Сацыял-Дэмакратычнай партыі Беларускай (Народная Грамада) Міколы Статкевіча.

Кантактны пэйджэр: **Тэл. (02351) 588 – 16, аб. 282; тэл. (02351) 4 – 89 – 45.**

***

Аматарам беларускага року, цікавай сучаснай беларускай песні, беларускіх бардаў, усім хто жадае набыць новыя музычныя альбомы, касэты, СД-дыскі, майкі NRM – **зьвяртайцеся да ЮРАСЯ**.

Тэлефон у Мазыры (02351) **3 – 07 –13**.

***

Мазырскае гарадское аддзяленне Грамадскіх аб'яднанняў **"Праваабарончы цэнтр "Вясна"** і **"Грамадзянскія Ініцыятывы"** віншуюць усіх настаўнікаў і вучняў з пачаткам новага вучэбнага года.

Спадзяёмся, што вы цудоўна адпачылі, а настаўнікі атрымалі за лета адпускныя і заробак.

Поспехаў вам і здароўя

Мазырскія Ведамасці
Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь Мазырскага аддзялення аб'яднання **"Грамадзянскія ініцыятывы".**

**Рэдактар: Уладзімір Целяпун**, тэл. 4-89-45.
**Адрас для допісаў:** вул. Палеская, 54 - 44, 247760, г. Мазыр, Гомельскай вобл.
**Наклад 299 асобнікаў.**

Выдаецца і распаўсюджваецца **бясплатна** на правах унутранай дакументацыі грамадскай арганізацыі.
Пазыцыя рэдакцыі можа не супадаць з пазыцыяй аўтараў.